Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана нумару 20 гр.

№ 6. Вільня, 25 Жніўня 1934 г. Год I.




Рэдакцыя і адміністрацыя
WILNO,
ul. S.S. Miłosierdzia Nr. 18,
m. 5.

Прэнумэрата: у год 3 злоты
у поў года 1,50 зл.

## ДВУТЫДНЕВІК ГРАМАДСКАГА ГУМАРУ І САТЫРЫ.

„Вось жа трэба нам помніць, што Беларусь, як нацыя, з'яўляецца бескласавай".

„Krynica" № 26 ад 25 Чэрвеня 1934 г.

— Тата, а тата — прыстаў неяк малы Пятрусь, — скажы за што мяне войтаў сын галапузам, лайдаком абзывае?

— Ой, сынок, ці мала хто нас абражае, ды над мужыком здзекуецца?! Гэта толькі ў казцы гаворыцца ў нашых краёх, ды ў брахлівых газетах пішыцца, што ўсе людзі брагы, а ці-ж гэта праўда? Бачыў ты калі, каб, напрыклад, мыш кошку ссала, альбо воўк ав чку прычэсваў, ці, скажам, каб леў адмовіўся ад мяса і крыві і, як заяц еў моркву? Не, скажаш! І праўда, бо пакуль гэтаму зверу шыю не скруціш, дык і ройнасці не будзе.

# „АСВА“ ПРАЗ РАДЫЁ

## АДКАЗВАЕ НА ХВАЛЮЮЧЫЯ ПЫТАННІ

Пытанне І. (Хвёдар Г-ка). Скажы мне паважаная „Асва“, ды дапамагі разабрацца чаму столькі газетак беларускіх, партыяў розных за апошні час напладзілася. І што яны ад працоўнага хочуць, а што яму даць збіраюцца. Я сустракаў іх многа, напр.: „Крыніца“, „Родны Край“, „Беларусь Працы“, „Новы Шлях“ „Шляхі Моладзі“, „Золак“ і іншую брыду. Ці праўда, што ўсе гэтыя партыі ды іх газеткі толькі дурманяць мужыка, ды рабочага і стараюцца, каб беларускім буржуям у кумпаніі з іншымі яшчэ лепей жылося?

„Асва.“ — Праўда, Хвёдарка, як ёсьць, чыстая праўда. Усе яны белымі ніткамі, ды з аднае шпулькі шытыя. Усіх іх адзін майстра - кравец краіў, нават з аднаго матар'ялу, толькі фасон зрабіў розны, каб, значыцца, з боку гледзячы нехта ў сур'ёз мог падумаць, што падабенства яны не маюць. А наконт таго, што яны дадуць, дык шырэй рот разяў, ды шапку настаў. Вось хадэцыя са сваей „Крыніцаю“ дык тая абяцае для мужыка „справедлівую земельную рэформу“ накшталт камасацыі, ды яшчэ тое, што хадэцка-буржуйскія заправілы мужыком у супалцы з іншымі хочуць кіраваць. А вось „Родны Край“ і ўся кумпанія Астроўскіх ды Луцкевічаў, дык тыя больш адкрыта, хаця-ж такжа безсаромліва, крычаць ды выюць, што большай нажывы з карыта панскага заслужылі (не ад працоўных ведама). Гэтыя старыя махляры ўжо вось колькі гадоў у брудных лёкай-



скіх справах практыкуюцца, ды выслужваюцца на старонках сваіх газецін. Яны адзін перад адным і перад большымі панамі цынічна прадажніцкімі справамі пахваляюцца, каб адурманіць працоўных; незалежніцкімі флажкамі памахіваюць і разам з тым у „фільстве ідэйным“ клянуцца. Варта яшчэ сказаць пра Акінчыца. Але пра яго даведаемся є артыкулу „Фабіянавы мары“ які на 4 ст. змешчаны. Існуюць яшчэ нацфашысгоўскія партыі ды газеты. Аб іх пастараюся расказаць у другі раз. За апошні час усе

яны моцна варушацца ды кры-
чаць сталі на Совецкі Саюз, лаюц-
аж захлёбваюцца, усялякія дзі-
касці выдумляюць, да вайны
Советамі адкрыта заклікаюць
Уся гэтая вазня ды актывізацы-
падобна да зграі варон, каторы-
перад дажджом ды перад бура-
лямант робяць. Вось і яны на-
пэўна нешта падобнае пачулі.
баяцца непагоды і засухі, бо ве-
даюць, што „рыльца ў пушку“
ды рукі запэцканыя. А што ба-
гата іх усякіх напладзілася, ды
гэта таксама рэч зразумелая. У
Савецкім Саюзе паймалі за рук-
іх кумпаноў пры бруднай рабоце
выкрылі іх супольныя планы
У нас тут зноўжа яны настольк-
запэцкаліся, што кожнаму ясн-
стала чаго гэтыя паны дабіва-
юцца. І зразумела, што невыгод-
на стала ім старымі абшарпаны-
мі рызманамі на вачох усіх трэс-
ці. Самы цёмны ды даверлів-
верыць перастаў. Вось і пара-
шылі многія з іх перафарбавацца
новую шыльду павесіць, ка-
старае шырмаю завесіць.

Зразумей і разбярыся ва ўсі-
гэным Хвёдарка, ды іншым рас-
кажы. Не забывай, што воўк
ў авечай скуры застаецца ваў-
ком, драпежнікам, крывасмокам
Так, што не па шыльдах ды ло-
зунгах дэмагагічна-нацыяналісты-
чных, фальшыва- соцыялістыч-
ных, адраджэнча - вызваленчы-
мяркуй, а па справах судзі,
карэнь глядзі, аблічча буржуй-
скае распазнавай.

(Працяг будзе).

## Наш пратэст

Супроць Гітлера, супроць ката
І яго тыранскіх мэт
Мы бзычасты асвянята
Шлём свой голасны пратэст.

Прэч ад Тэльмана героя
Рук крывавых кіпцюры,
Вызваленне возьмем з боя
Раскуём мы кайданы!

Неўдасца задушыць вам
Волю мас да барацьбы;
Даць адпор усім фашыстам
Мы гатовыя заўжды!

Падпісалі асвяняты: П.Г., В.С., Г.П., Я.С., М.Л.

## Наш вецер

Вецер вольны ты гуляеш
Ў полі, ў лесе, над вадой
Многа ведаеш, бо бачыш
Як люд змагаецца з бядой.

Як мужык у курнай хаце
Лушпайкі коркі збірае,
А работнік, як у месце
Зарабіць на хлеб не мае.

Панясіж ты вецер буйны
Наўсход сонца наш прывет,
Прынясі для нас адтуль ты
Шчасця, працы агня цвет.

Навучы ты люд працоўны
Ненавісцю палымець
Выступаць, каб гарту поўны;
Умець змагацца, жыць умець

Герасім Прамень.

# Бі па св'нскаму рылу!

Да Т. Б. Шоўскага гароду
Рылы свінскія ўпаўзлі,
Як адзін—панскай пароды,
Ці з кулацкай чарады.
У агародзе гаспадарыў
Мазалісты чалавек,
У звон трывогі ён ударыў
І пачаўся свінскі енк.
Як давedaўся ён после,
Свінкі знатныя былі —
Клясца ўмелі ўшчырасці,
Лыч спусціць, схаваць клыкі.
Мазалю паклон рабілі,




Слухалі яго прыказ,
Патаемна-ж грады рылі,
Панскі помнячы наказ.
У агарод прышлі не проста,
Заблудзіўшысь сярод дня,
Мелі, бачыш, палнамоцтва,
Як свінячая радня.
Агарод спустошыць, знішчыць,
Грады зеллем спрапасціць,
Т. Б. Шоўскі тлум мужычы
Служкай панскаю зрабіць.
Не ўдалось свіному роду
Грамаду з дарогі збіць, —
Копам выперлі з гароду,
Далі ў робры, далі ў лыч.
Вепрукоў, свіней лычастых
Пазганялі з град далоў,
Кумпаноў-жа іхняй масці
Не ўсіх выгналі з гурткоў.

*

Дык вось, браткі, яй заклікаю
Гарод наш моцна сцерагчы, —
Не дапускаць прадажнай зграі
Самім-жа ўперад ўсё ісці.
Як толькі дзе убачыш лыч
З нацфашыстоўскай чарады,
Суседа, брата ў помач кліч —
Інакш не збавішся брыды.
Дык хай для Т. Б. Шоўскіх мас
Законам будзе такі сказ:
Бі да знішчэння, да хрусту касцей
Па нацфашыстах усякіх масцей!

**Тэбэшовец.**

# Аб фільстве



„Вузел," які паводле рэдакцыі „Беларусь Працы" зьвязвае інтэрэсы фільстваў.

### Песня пра Антона

Панад Вяллёй сядзеў мужчына
Ён голаў на руку узняў,
Дыбам узнялася чупрына
Відаць ліхі лёс дапінаў.
К берагу лодка падыходзіць
Вялікі пан у ёй сядзіць,
Што у палітыцы рэй водзіць
Па ўсім краі строга глядзіць.
Той пан на бераг прыбліжа ся
І у прысутнага пытаць пачаў
Чаго ён так засумаваўся —
Чым ліхі лёс яму дапяў.
То быў вяльможны п. Антоні
Ён ў Менску „раду" праіграў,
І бег адтуль ён, як шалёны,
Бо люд працоўны разагнаў.
І вось у гэтакай распачы
Ён усё пану расказаў,
Што яго гарачка знача
Не раз тапіцца ўжо рашаў.
— Мой брат, ён кажа, служа
ў немца
Прыяцель у следчай недзе быў,
І слёзы з бочак моцна льюцца,
Каб я так марна дні звадзіў.
І пан над „бедным" зліітаваўся
І наймітом к сабе узяў,
А ён душою усёй аддаўся
І Радаслава ў помач ўзяў.

**Квялюк.**

### Зьмяніўся

— О ёй, ёй! Што гэта з табой? Ну і змяніўся ты, брат, пахудзеў? Ці не хварэў часам?

— Не, дзякаваць богу, здаровы, але... я ўжо не войтам...

**П. С.**

### Раве піла.

Раве піла аб дрэва
І толькі чуцен дзын
На права і на лева
Рой валіць пілавін.
Сасну работнік рэжа
На ўсякі матар'ял,
І лье свой пот гаротны
Штодня на капітал.
Але пара настане
І пілы гартака
Зазвоняць ў прывітанне
На долю бедняка.

**Прамень.**

### Кумава бяда.

— Ой, кумок, ведаеш бяда мяне напаткала.

— Што-ж у кума здарылася?

— Ды мой лайдак сын Грышка натрапіў на апошнія 2 залатоўкі і праглынуў.

— Шкада 2-х залатовак, у нашым жыцці гэта вялікія грошы, але нічога, дастануць.

— То та і ёсць, што доктар адмовіўся, кажа нічога не будзе. І ведаеш хлапца набіў. Шкода і грошай таксама.

— І дурны-ж ты куме, папоўз да доктара, схадзі лепш да сэквэстратара — той умее з нутра дастаць.

### Пасады... пасады...

Безработны выходзіць з „Бюро Працы" і гнеўна габурэецца:

— Завецца „Бюро Працы", а працы нікому не даюць.

— Як нікому!? — спыняе яго возьны,—надовеча сястра, швагер, пляменнік і яшчэ пара сваякоў пана начальніка працу далі... А я? А начальнікавы каханкі?... А ты мелеш, што ніхто!..

# ФАБІЯНАВЫ МАРЫ

Позна прыйшоў Фабіян да дому і адразу зморany лёг спаць. Але сон не браў хаця і спаць хацелася, варочаўся, хаця, здаецца, і блохі не кусаліся. Усялякія думкі ўзнікалі. Чорт ведае, што плялося. То яму здавалася, што ён хлопчык на пабягушках у пана, то наадварот — сам у вялікія паны выбіўся. У галаву лезлі вобразы нейкіх парсюкоў, перад вачыма ўставалі брудныя карыты, нешта моцна пачало бзынчэць каля вуха. Фабіян устрапянуўся—страшна нeяк яму сталася.

— І што за бяглудзіца, — прарычэў наш „мучанік“, — адкуль гэтыя карыты, парсюкі гдзе я іх бачыў? І што гэта так прэрэзліва і страшна бзынчэла?

— А-а-а... прашыпеў Фабіян, гэта-ж у гэтай газетцы „А-а-а-с-в-е“, гэта яна, гэты пасквіль антыадраджэнчы, Астроўскага і Луцкевіча так маіх калегаў размалявала. Уй, як брыдка робіцца... І хіба-ж гэта праўда? Га? І Фабіян сілаю адагнаў гэтую, для яго самога. непрыемную, думку. Добрыя людзі, свае людзі, хаця-ж і пасварыцца мусіў...

Незаўважваючы сам, ён пачаў з сабою гаворку.




у галаву лезлі вобразы нейкіх парсюкоў...

— Лаюць іх ўжо за многа. Ну ўзяць хаця-б Луцкевіча. У вёсцы пра яго кожны сапляк плявузгае,—нацфашыст, прадажнік, у крыві купаўся, крывасмок, фашыстоўскі лёкай і інш., кожны можа расказаць яго жыццяпіс ад маленства да рэвалюцыі у Расіі, пра разгаворы з немцамі, згоды і просьбы апекавацца над Беларуссю з боку ўсякіх бацькоў і атаманаў, а пасля зноў тут...

Фабіян успомніў „Грамаду“, паслоў, сяброў з Галоў. Управы Т. Б. Ш. і яму стала непрыемна. Нават Астроўскі ад Луцкевіча пачаў нібыта адварачвацца, хаця сам не лепшы. Ну ды-к хто-ж мяне паслухае, калі я буду далей у такой кумпаніі. Не, браткі, старыя калегі добрая рэч, але старое ўжо не прывабнае—на ім далей не пратрымаюся. Трэба нешта абнаўляць, перафарбоўваць, дамаляваць.

II.

Раніцаю Фабіян пачаў успамінаць усё, што сьнілася. У галаву прышло як раз тое аб чым марыў.

Здаецца жыве Фабіян у вялікім палацы, накшалт прэзыдэнцкага ў Варшаве (не ўспомніў добра дзе: ці ў Вільні, ці ў Менску). Навакол яго апалчэнне з ад'ютантаў і нават міністраў (між іншым Астроўскі з Луцкевічам таксама тут былі). Палац ахоўвае гвардыя, а не далёка кашары ў якіх палкі... палкі... палкі... Адзенне ў салдат наманер Кастуся Каліноўскага, чыста ў беларускім самабытным стылю. Генералы да яго прыяжджаюць, парады патрэбныя даюць. Сам ваевода у гасцях часта бывае. І прыносяць, здаецца яму, запрашэнне ад самога Гітлера, каб у Бэрлін, значыцца, з візытам прыехаў. Ну і паехаў зразумела. У палац да самога Адольфа завялі. Глыбокі паклон зрабіў Фабіян; укленчыў ды так і астаўся стаяць на каленях.

„Вялікі правадыр“ задаў некалькі пытанняў:

1) Практыка па часці крывавых спраў?

2) Да якой расы належыць і ці хвацкі антысэміт?

3) На якой аснове думае адраджаць і на якой аздараўляць нацыю?

Фабіян адказаў на ўсе пытанні ні-бы арэшык грызануў. І зразумела. Наконт крывавых спраў, дык ён бязспорна майстра, наконт-жа двух астатніх пытанняў, дык-ён адказаў на абодвы залпам.

— Раса мая чыста арыйска буржуйская—беларуска - лякайская. Адраджаць буду праз паход згодна вашых планаў на ўсход, а аздараўляць.. ну гэта-ж зразумела, як і ў вас, пане, Гітлер. Наскольні мне ведама ў аснове гэтага ляжаў гомосек суалізм.

III.

Усё, што я табе расказаў дарагі чытач, усё гэта праўда. Але праўда і тое, што ўсё гэта пакуль-што мары, сон пана Акінчыца. Вось, каб ажыццявіць гэтыя свае мары пан Фабіян пачаў з ідэолёгічнай апрацоўкі, гэта значыць з таго, каб адурманіць, абаламуціць працоўных, зацягнуць іх у сваё павуціньне, стварыць нац. - соцыялістычную партыю на чале са сваёю персонаю. Вось для гэтага пан Фабіян выдаў газеціну, назваўшы яе „Новы Шлях“. Як-жа сустрэлі працоўныя гэную пісаніну? Будучы выпадкова сведкаю аднаго эпізоду хачу расказаць аб ім і чытачу.

* * *

У нядзелю рана Сцяпан Неспакойны ўстаў пазней. як заўсёды, аполаскаў твар і сеў за стол, чакаючы пакуль гаспадыня падасць снедаць. Паставіўшы локці на стол, ён абняў голаў худымі загарэлымі рукамі і сядзеў у задуменні. У хату ўвайшоў Андрэй Шустры, памахіваючы нейкаю паперкаю. Пераступіўшы парог, ён, як звычайна, адразу пачаў бойкую гаворку.

— Чаго задумаўся? гаруе-ш, што секвестратар забраў—усё роўна нават да каляд не хапіла-б. І чаму ты усё думаеш, як чэрава набіць, каб нераўло з голаду? Некультурны ты чалавек Сцяпан дый годзе. Вось я ўчора касіў у нашага падпанка Скуралупава, што калісці прасга Іванам звалі. Жаліўся я яму, што даўно да сыту не наядаўся.

— Ну ён табе пад'есці даў канечна, перарваў Сцяпан.

— Даў, брат, ды так я пад'еў аж дух запёрла. Даў ён мне харч, як ён кажа, не для бруха, а для духа — на вось, чытай. І Андрэй падаў Сцяпану газеціну „Новы Шлях“ орган Беларускіх нацыя-

нал-социялістаў. Сцяпан пачаў чытаць з першай старонкі—там, дзе напісана „Нашыя Тэзы“.

— Нашай мэтаю — разбіраў ён па слову — незалежная безкласавая працоўная Беларуская рэспубліка ў яе этнаграфічных межах. Што гэта значыць?

— Чытай далей, зразумееш.

Сцяпан працягваў—нац. социялізм імкнецца стварыць новы дух беларускай нацыі, дух, што заб'е ў беларусаў...

— Стой, стой, брат, пачынаю разумець, значыцца, пан Акінчыц хоча здабыць этнаграфічныя межы і выгнаць з нас дух...

— Так, так падкрэсліў Андрэй, прачытай яшчэ на трэцяй старонцы якім спосабам ён хоча выганяць гэты дух, а пасля на першай старонцы пару радкоў і ты проста ў раі сябе пачуеш.

Сцяпан працягваў—маўчыма, што гэты працэс пройдзе праз крывавую фазу ваенных забурэнняў. Але баяцца іх мы беларусы не павінны, як не баіцца іх той каму няма чаго траціць... Лічым, што такая вайна прыгнечаным стратнаю быць не можа.



здаецца жыве Фабіян у Вялікім палацы...

— Бач, скула яму на язык, якім парадкам дух выганяць будзе—ускрыкнуў, не ўстрымаўшы Андрэй.

— Ну, добра, дай да канца разбярэмся і Сцяпан перавярнуў газеціну, пачаўшы чытаць на першай старонцы там, дзе Андрэй ткнуў пальцам.

— Беларускі зарганізаваны народ праз сваіх правадыраў вырашыць усе дробязгі грамадскага і палітычнага ладу ў сваім незалежным краі.

У сучасным-жа палажэнні ўсе спрэчкі на гэтую тэму мы залічваем да пустаслоўнага доктрынэрства, шкоднага для Беларускага народу..

— Ну цяпер—ускрыкнуў Андрэй — ты ўжо сыты.

Так—проста зарычэў Сцяпан, накарміў аж пустыя кішкі выварачваць пачало, хвацка, брат, пан Акінчыц пад мужыцкую рэбрыну швайку ўткнуць збіраецца.

— Значыцца так – пачаў з горкаю ўсмешкаю Андрэй—дух наш перарадзіць трэба шляхам вайны, а вайны нам баяцца не варта, бо нічога не маем. Праўду так піша, альбо здыхаць з голаду, альбо згінуць на вайне. І так і так у карысць пана. Тупік мужыку адным словам. Ну, а калі пан Фабіян у імя этнаграфічна — адраджэнчых мэтаў, як вялкі правадыр вырашыць усе дробязгі грамадскага і палітычнага жыцця ў сваім незалежным краі.

— Вось брадзяга чаго захацеў, з нестрыманым абурэннем загаварыў Сцяпан—мы значыцца мусім ваяваць, мужык у мужыка страляць, а паны

## Дык знайце!

Я не знаем з пялёнкай забабонаў,
Ў няволі дух мяне не зневажаў.
Мае бацькі мне адчынілі дзверы,
Каб мозг і цела вецер гартаваў.

Мой розум востр і працавіты рукі,
Расту, вучусь, ў суседнім вам краю
Ў весь інвэнтар мастацтва і навукі
Пастаўлены ў дзяцінную маю.

Мой хуткі рост і моцнае здароўе
Прыносяць ворагу і злосць і перапуг,
Сам абаронен я і сілай і любоўю
Ад іх каслявых і крывавых рук.

Дык знайце вы прадажнікі і здрайцы,
Ксяндзы Станкевічы, Астроўскія паны!
Мы маем ўсё і шустрыя, як зайцы,
А словы вашыя пустыя, як званы.

Прадажніцкія ролі вашы ўжо выкрыты,
Не верыць вам й тутэйшы маладняк;
Гадзіна здраднікаў даўно ужо адбіта
І вырвем, з каранем вас, як траву—сарнёк.

П. Р.

## Аб дзецях у СССР.

У 1913 г. дзяцей у яслях было 1400; у 1932—275 тысяч, а ў 1934 болей чым 380 тысяч.

— Гэга толькі ў месце. На вёсцы ў 1934 знаходзіцца 550 тысяч стала, а болей 6 мільёнаў сезонна, дзяцей.

— У 1932 ў пачатковай і сярэдняй школе у СССР. вучылася 21 міліон 700 тысяч дзяцей. А ў гэтым годзе—26 міл. 600 тыс.

— У царскай Расіі вучылася толькі 7 міл. 800 тыс. дзяцей.

— Навука праводзіцца на 70 розных нацыянальных мовах.

— У Нямеччыне ў прошлым годзе лічба вучняў у пачатковых і сярэдніх школах зменшылася на 45 тыс. Пераход дзяцей з пачатковай школы ў сярэднюю скараціўся амаль у паўтары разы.

— У 1930 г. ў Сов. Саюзе налічваюць 4 міл. піэнераў. Цяпер 6 міл. піянераў арганізованых у 130000 атрадах.

Фабіяны пад Гітлераўскай ці іншай апекай — будуць на нашым гарбу незалежнае буржуйскае панаванне будаваць.

Андрэй моўчкі падняўся з услону, падышоў да печы, выграб вугля і вярнуўшыся да стала разгарнуў газеціну. Незграбным почаркам у поперак Акінчыцавай шматкі ён напісаў:

Свінтухі вы адраджэнчыя, лёкаі панскія, буржуі беларускія, крывасмокі мужыцкія. Мы са Сцяпанам пасылаем вам шматку вашу паскудную, пляваць мы хацелі на вашыя тэзы, а з вамі, прыйдзе час, разлічымся, атрымалі вы калісці, ды мала, нічога, дабавім, не пакрыўдзім...

Паводле гутаркі Андрэя Шустрага
і Сцяпана Неспакойнага напісаў Х.

# ГУТАРКА АГРАНОМА З ПАЛЕСКІМ СЕЛЯНІНАМ

**Агрaном.**

Каб быць заўсё дч з малаком,
Кармі карову бураком,
Канюшыны дай у волю,
Ды макухавага пойла.

**Селянін.**

Ах, каб меў я буракі
Я-б тады не меў бяды,
Я-б тады багаты быў —
Бураком дзяцей карміў,
А з макухі, са жмыхі
Пекла-б жонка перагі.

**Агрaном.**

Хочаш сала многа мець
За свінёй мусіш глядзець,
Хлеў цэгельны будаваць,
Свіней іркшыраў гадаваць.

**Селянін.**

Як хлявы мне будаваць,
Як іркшыраў гадаваць —
Адну свінку меў ў дварэ
Вун у тым старым хляве.
Салаж я не каштаваў —
За падатачкі прадаў.

**Агрaном.**

Эх, палі вашы, палі
Ураджай даюць малы; —
Угнаення больш купляйце,
Ураджай палей уздымайце!

**Селянін.**

То парады для паноў,
Для папоў і кулакоў.
Як культуру мне ўвадзіць,
Угнаенне як купіць?
Пры душы ані граша,
Дый зямлі амаль няма.

**Агрaном**

Трэба йсці на хутарок —
Будзеш жыць, як кулачок,
Будзеш мець свіней, кароў,
Нэндзу знімеш з плеч далоў.

**Селянін.**

Хутар мудрая прымана
Для мужыцкага абмана —
Там багаты багацее,
А бедняк яшчэ бяднее.

# А С Л І Н Ы Я   В У Ш Ы




Непрыемна чуць пра выкрыцьцё контррэвалюцыйных пляноў сваіх кампаноў у Менску і ў старых масках у масы не пойдзеш...



Хоць і новыя маскі надзелі, але усё-ж асліныя вушы відаць — па іх кожны пазнае хто мы такія...

## З „АСВОЙ“ ПА КРАІ

Быў ціхі ліпнёвы вечар. Сонца схілялася над гарызонтам і кідала чырвоныя праменні, а ад дрэў кляліся доўгія, жудасна-чорныя цені. Вакно рэдакцыі выходзіла ў сад. Пад самым вакном расла вялікая цяністая груша. Высока над суком звісала асвінае гняздо. Я сядзеў і разпляноўваў матар'яў на наступны нумар. Раптам каля майго вуха нешта зажужжала — гэта прыляцела да мяне ў госці асва.

— Я да цябе са справай—загаварыла яна.

Я нагостры́ў вушы.

Хочаш — цягнула яна далей, мы зробім маленькую падарожжу па краі, пагледзім і паслухаем дзе, што чуваць.

— Добра, сказаў я, але дзе-ж грошы?

— Э глупства, ты паляціш са мной.

Я не спрачаўся і мы назаўтра адправіліся ў дарогу.

Насамперш мы паляцелі у кірунку Палесся. Пад намі мігалі лясы, сенажаці, рэкі, балоты, вузенькія селянскі поласкі палёў, пахіленыя селянскія хаты з прагніўшымі стрэхамі. Вельмі часта да нас даносіліся крыкі галодных дзяцей і сумныя песні, поўныя жалю і розпачы. Аднак што раз часцей і часцей даходзілі таксама песні незадавалення, песні гнева, песні помсты. Мы прыбліжаліся да Бэрэзы Картускай, дзе дэкрэтам п. прэзыдэнта ўтвораны першы канцлагер.

Вось сюды накіраваны цяпер вочы многіх. Сюды імкнуцца заехаць нават карэспандэнты, каб значыцца, уласнымі вачыма абсэрваваць якім чынак выпраўляюцца „элементы пагражаючыя грамадскаму спакою“.

У Бэрэзе я напаткаў супрацоўніка газеты „Работнік“ орган П.П.С. Хто ведае, што тхнула гэнага паніча ў такое небяспечнае падарожжа? Можа проста хацеў параўняць ці падобны гэты лагер да таго, што калісці П.П.С. сама пабудавала, а можа думаў удасца проста якога знаёмага эндэка ўбачыць, бо кажуць некатарых нараўцаў, нібыто, таксама туды адкамандыравалі. Але знаёмых сваіх не сустрэў там абсэрватар, наогул мала цікавіўся людзмі, што там знаходзяцца: хто яны, адкуль, як і для каго сталі небяспечнымі і г. д.

Спакойна ён расказаў, што бачыў, як зневоленыя працуюць панад сілы, аж пот ліецца, ад раніцы да ночы, што апранутыя вельмі дрэнна, што асысту паліцыную маюць вельмі добрую (амаль 1 вязень на 1 паліц.), што працуюць там і маладыя да 20 год і болей чым 50 год, і што так, здаецца, і хацелася яму дадаць, дзякуючы бога. Шкада, што паспяшыў трохі пэпэсаўскі абсерватар, а то і пра падзяку ўсемагутнаму напісаць - бы мог—тады малюнак быў бы болей поўны. Распараджэнне адміністратыўных уладаў аб абавязковым малебну ў лагеры выдана ўжо пасля адʼезду нешчаслівага пэпэсіка. А шкода. Гэтакую прыемнасць не бачыць. Некалькі сот чалавек, як адзін усе разам, пасля 16 ці 18 гадзіннай работы і дваццацівасьмі грашовай ежы дзякуюць усемагутнага, што дзень пражылі і просяць каб назаўтра памог на ногі ўзняцца. Бо хто яго ведае, што з грэшным чалавекам у цяпераш-нія часы праз ноч можа здарыцца...

У „штабе“ канцлагера для палітычных засланых адміністрацыяй без суда, на працу ў палескіх балотах пануе вясёлы настрой...

Алеж ці вясёлы настрой у палітвязняў? Так выглядае Бэрэза Картуская—сымбаль панавання мацнейшага над слабейшым.

Мы паляцелі далей над Палессем, каб не бачыць твараў, змораных працай панад сілы, каб не чуць жартаў і вясёлага настрою „штаба.“ Мы апусціліся ў аднэй вёсцы, а таму што зблізіжаўся вечар пастанавілі тут пераначаваць. Скіраваліся да аднэй селянскай хаты. На парозе нас спаткаў селянін лет пад сорак з хмурным і непрыхільным выразам твару, думаючы, што я сэквестратар. Аднак, калі даведаўся, што мы ад „Асвы“ на яго твары разлілася глыбокая усмешка і ён шырока адчыніў дзверы свае хаты. Праўда, ён не мог нас прыняць з хлебам і соллю, бо хлеба сам ужо не памятае наʼт калі не меў у роце, а на соль такжа грошы не вадзіліся.

Як-жа вы тут жывяцё без солі, спытаў.

— Мы ўжываем панястку: купіў я надовеча бочку ад селядцоў развёў расол вадзіцай і добра Шмат хто гэтак робіць... Што-ж тут дзіўнага?..

Назаўтра мы ўзняліся раніцай і паляцелі ў кракаўскае ваяводства, туды дзе яшчэ так не даўна, шалела небывалая паводка.

Усюды, як кінуць вокам, разбурэнне. Сотні людзей дарослых і дзяцей загінула ў хвалях раздутых рэк. Тысячы, дзесяткі тысяч селянскіх хат, хлявоў, стайняў і іншых пабудоў знішчана, разбурана, змыта вадой. Збожжа і зжатае і не зжатае знікнула, паплыло не ведама куды разам з вадой. Быдла, птушкі патоплены — усю худобу, як вынік доўгіх гадоў цяжкай працы забрала паводка.

Небывалая нэндза; няма быдла, няма ежы, няма малака для дзяцей.

Паводка! Гэта страшная рэч, але ваду можна змусіць плысці там, дзе захоча чалавек, можна яе змусіць працаваць. Для гэтага трэба будаваць абаронныя валы, рэгуляваць і паглыбляць рачныя руслы, будаваць тамы, тады-б не было паводкі нават вясной. Гэтага аднак не робіцца, гэта драбностка...

На гэта няма грошы...

А хто ратаваў? Звычайныя калеёўцы, простыя салдаты, каторыя з голымі рукамі, на прымітыўных лодках чы пантонах афярна неслі ратунак. І цяпер з матаръяльнай помачей йдзе ахвярна працоўны народ, адрываючы часта з свайго роту апошні кавалак хлеба. Расце і гартуецца солідарнасць селянскіх і рабочых мас. Пакадзянамі павінна заапекавацца дзяржава: звольніць ад падаткаў, даць беззваротна матаръяў на пабудову дамоў, быдла, на пасеў, ежу, вучыць безплатна дзяцей.

Знішчаныя дарогі, масты, калеі,гмінныя будоўлі павінны быць адбудаваны не коштам найшырэйшых мас працоўных, а коштам дзяржавы.

Адсюль мы праляцелі на Гурны Шлёнск, дзе лес высіцца пагаслых комінаў, і адсюль пакіраваліся ў Вільню, пралятаючы над Лодзяй і Варшавай, дзе яшчэ так не даўна некалькі тыдняў страйкавалі будаўнікі, дамагаючысь падвышэння платы.

Калі прыляцелі ў Вільню быў вечар. З-за леса цяжка, як бы напіўшысь крыві, выплываў чырвоны месяц, чуцен быў у лесе крык савы і недзе далёка, далёка выў сабака.

**Падарожнік.**



## З Польшчы

1 ліпня адчынены тэлефонныя зносіны паміж Масквой і ўсімі гарадамі Польшчы.

У Лодзі і Варшаве страйкавалі будаўнічыя рабочыя, дамагаючысь падвышэння зарплаты У Лодзі страйкавалі 2 месяцы.

У Польшчы ў абозах працы работае 9000 безработнай моладзі ў веку ад 18 да 19 г. У абозах пануе ваенная дысцыпліна.

На тэрыторыі Польшчы ёсць 346 турмаў, яны разлічаны на 38,904 чалавека.

Выбары ў Варшаўскую гарадскую раду адложаны да 24 лютага 1935 г.

Міністэрства ўнутраных спраў забараніла ўвоз у Польшу брашур, у якіх надрукаваны тры астатнія прамовы Сталіна.

Страты прычыненыя паводкай у Кракаўскім ваяводстве выносяць болей чым 200 міліонаў злотых.

У Варшаўскай кансерваторыі выступаў савецкі артыст Ігар Ільінскі, які прачытаў урыўкі з твораў Гогаля, Чэхава і савецкіх гумарыстаў Зошчэнка і Маршака. Да гэтага ён выступаў у Кракаве: Публіка сустрэла талентавітага савецкага артыста бурнымі воплескамі.

## Весткі з СССР.

Новачаркаскі інстытут меліаарацыі сканструаваў апарат для арашэння пасеваў. Апарат раўнамерна размяркоўвае вільгаць у радыюсе 35 мэтраў, нават пры моцным ветры. Прыстасаваны да трактара апарат можа арасіць за 10 дзён 70 га збожавых пасеваў.

У СССРу гэным годзе адпачываюць у лагерах 3 міліоны дзяцей. 200 лепшых дзяцей СССР прэміравана высылкай на паўтары месяцы адпачываць у лепшых курортных мяйсцох. Да падшэфных маракоў на ваенныя караблі паехалі дзеці з Сов. Беларусі.

У СССР пабудаваны самы буйны ў свеце сухапутны самалёт імя пісменніка „Максіма Горкага", які будзе выкарыстоўвацца выключна для агітацыйхных і прапагандычных мэтаў. На самалёце ўстаноўлена радыё электростанцыя, гукавое кіно з фото студыям, электрыфікаваны буфэт з гарачымі і халоднымі закускамі. Каюты абсталяваны мяккай мебеллю. На самалёце можа знаходзіцца 76 чалавек.

Самалёт прыводзіцца ў рух 8 маторамі, якія складаюць усе разам магутнасць каля 7 тысяч конскіх сіл. „Максім Горкі" мае палётную вагу 25 тысячы пудоў, даўжыня крылляў 63 мэтры. Самалёт без пасадкі можа праляцець дзве тысячы кілометраў.

25 чэрвеня 1934 г. урад Сов. Украіны перасяліўся з Харкава ў старэйшы і найпрыгажэйшы ўкраінскі горад Кіеў. Вядуцца вялікія работы над упрыгажэннем і разшырэннем горада.

У 1934 г. на балотах БССР шырака разгортваецца мэліорацыя і здабыча торфу, які прадстаўляе сабою магутную энэргетычную базу народнай гаспадаркі. На 20 чэрвеня з пачатку сезона 1934 г. ў БССР здабыта 375 тысяч 744 тонны торфу.

Беларуская Акадэмія Навук арганізуе ў Менску літэратурны музэй. Для яго адводзяцца спецыяльныя пакоі ў дзяржаўнай бібліатэцы. У музэі будуць сканцэнтраваны дакумэнты, характэрызуючыя літэратурны рух БССР. дакуманты, звязаныя з творчасцю паасобных пісменнікаў. У музэі, апрача беларускай літэратуры, будуць нацыянальныя аддзелы: польскі, літоўскі і яўрэйскі. Адкрыццё музэя намечана на студзень 1935 г.

## З-за граніцы

У сталіцы Галандзіі Амстэрдаме у ліпні месяцы адбыліся рэволюцыйныя баі, якія ўспыхнулі ў выніку зніжэння зарплаты безработным. Былі высланы вайскі, танкі і самалёты. Рабочыя будавалі барыкады і рабілі драцяныя загароды. На барыкадах высіліся чырвоныя сцягі, закаторыя адбываліся фармальныя бойкі. Баі цягнуліся некалькі дзён і перанесліся ў Роттэрдам.

Амерыканскія газеты друкуюць аб вынаходзе др. Тэслам „праменняў смерці". Спэцыяльны апарат, пасылае электрычныя праменні на адлегласць 250 міль, якія могуць знішчыць тысячы самалётаў і цэлыя арміі.

У Англіі будуецца для ваенных мэт 600 самалётаў і 20 бронецягнікоў.

У Паўночнай Амерыцы ў Сан-Францыско ў ліпні месяцы адбыўся небывалы да гэтуль страйк партовых рабочых. Было забітых некалькі рабочых. Рабочыя трымаліся надзвычай моцна і зарганізавана.

Балён бензіны ў Злучаных Штатах Паўн. Амерыкі каштуе 17 цэнтаў, а балён чыстай вады 30 цэнтаў. Так выкарыстоўваецца засуха ў хваленай Амерыцы.

ПАШЫРАЙ „АСВУ" СЯРОД СЕЛЯН і РАБОЧЫХ!




**Дзеці аднэй школы у Наваградчыне рашылі паслаць на з'езд Т.Б.Ш. які меў адбыцца 17 чэрвеня ў Вільні, свайго дэлегата. Па дарозе яго затрымала паліцыя, як „элемэнт загражаючы грамадскаму спакою і парадку"**



Паліцыянт да дэлегата: „Куды йдзеш? Безпарадкі ў Вільні рабіць?..

## ПОШТА

**П. Граніт і Г. Прамень.** Ваша просьба будзе споўнена.

**Улка.** Мароз „Асвы" яшчэ не скаваў, хаця і вее паўночны сцюдзёны вецер. Ваш матэр'ял па пераробцы часткова скарыстаем, пішэце далей — кошыка не бойцеся: ён не ўсё прыймае.

**Шыр-Шлях.** „А ву" вышлем; застасуемся да вашых указанняў, матэр'яў выкарыстаем, калі будзе месца. Шліце балей.

**Свіслач (А. Шм.)** „Асва" да Вас ісці будзе, дзякуем за прывітанне і за прысланы матэр'ял — калі падойдзе змесцім. Пішэце, што чуваць у Вашай вёсцы.

**Янка Снапок.** Просьбу выпаўнім, прышлеце, да азнаямлення, яшчэ матэр'ялу.

**Волпа (З. З.) і Н. Ж.** Гэты матар'ял не падходзіць прышлеце яшчэ.

**Квялюк.** Вашы пісьмы атрымалі, будзем выкарыстоўваць, не перарывайце працы.

Рэдактар-выдавец: П. РАДЗЮК Друк В. Знамяроўскага